# Беларускі Піонэр

№ 4



-Чырвоная зьмена-

# ЗРАБІ САМ

## Свой каляндар.

Вазьмі невялікую фанэрную дошчачку і выпілуй з яе вось такую хатку з 4-ма дзіркамі. Потым выпілуй тры простакутныя дошчачкі такой велічыні, каб можна было імі зачыніць дзіркі.



Прыбі маленькімі цьвічкамі гэтыя дошчачкі з другога боку гэтай хаткі. Яны зачыняць дзірачкі, але павінны заставацца невялічкія шчыліны паміж дошчачак і хаткі, каб можна было прасунуць у шчыліну палоскі паперы.

Замест цьвічкоў можаш гэтыя дошчачкі да хаткі прыклеіць клеем. Але тады на рагох трэба будзе падкласьці па кавалачку картону, каб засталася шчыліна. Вазьмі ліст чыстай і добрай паперы і разрэж яе на 4 палоскі.

Дзьве з іх, вузкія палоскі, павінны быць шырынёю крыху большыя, чым верхнія і ніжнія дзіркі, а дзьве—шырокія, крыху шырэй сярэдніх ваконцаў.

На аднэй з вузкіх палосак напішы ўрад назвы месяцаў, на роўнай адлегласьці адзін ад другога. Адлегласьць паміж словамі месяцаў павінна быць такою, каб праз дзірку можна было бачыць толькі адну назву: калі „люты", то слова „сакавік" павінна быць зусім захавана.

На другой вузкай палосцы такім-жа чынам напішы назвы дзён тыдню.

На шырокіх палосках напішы лічбы. На адным: 1, 2, 3 (яны будуць паказваць дзесяткі), а на другім: 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 0.



Можна як лічбы, так і назвы месяцаў і дзён выразаць з старога календара і наклеіць.

Калі ўсе палоскі гатовы, іх трэба прасунуць у шчыліны паміж хаткаю і дошчачкай.

Палоску з лічбамі дзесяткаў (1, 2, 3) прасунь у правую шчыліну, а з лічбамі адзінак (ад 1 да 0) у левую.

Потым канцы кожнай палоскі трэба склеіць разам, тады атры-




маецца 4 кольцы, як паказана на малюнку.

Каб увесь гэты мэханізм не псаваўся, трэба захаваць яго ў скрыначку. Дзеля гэтага вазьмі падыходзячай велічыні скрыначку з картону альбо дрэва. У крайнім выпадку, калі няма гатовай скрыначкі, можна зрабіць самому і скрыначку. Прымацуй кавалачкамі скуры адзін край хаткі з боку скрыначкі, а на другім краі зрабі кручок.

Згіблі крышку кольцы, і яны лёгка схаваюцца ў скрыначцы. Пры перамене лічбаў адчыні хатку і перасунь лік і дзень. У першыя дзевяць дзён месяца перасоўвай толькі левую палоску з адзінкамі, а замест дзесяткаў пакідай чыстае месца палоскі.

Каб упрыгожыць каляндар, надворны бак фанэры размалюй фарбамі ў выглядзе хаткі альбо якога-небудзь вузору.

## Як зрабіць клей?

Сталярны клей купляецца пліткамі. Клей крышаць і кідаюць на некалькі гадз. (8—12) у ваду, каб ён разбрыняў; потым лішнюю ваду зьліваюць і мешаніну гэту падаграваюць на агні, пільнуючы, каб яна не прыгарэла. Калі клей распусьціцца—стане рэдкі, адпаведнай гушчыні (для розных гатункаў дрэва патрэбна розныя гушчыня),—тады ён, значыць, гатоў. Звычайна гарачы клей павінен сьцякаць з пэндзля тоненькім струменем. Клеіць трэба гарачым клеем, а калі ён застыне, дык яго трэба ізноў падагрэць.

Можна зрабіць і іншы клей, які не баіцца вады. Трэба ўзяць 50 грамаў нягашанай вапны, 60 гр. тварагу і 10 гр. вады. Вапну абліць вадой—атрымаецца гашаная вапна, якую зьмяшаць з тварагом і вадой. Такі клей хутка робіцца цьвёрды, таму яго трэба ўжываць зараз жа пасьля прыгатаваньня. Гэтым клеем добра клеіцца ня толькі дрэва, але шкло і фарфар.

## Фарба для пабелкі сьцен і столі.

Бярэцца крэйда і расьціраецца на муку, дадаецца невялікая частка сінькі, гэта ўсё разводзіцца вадою ў гаршку да гушчыні сьмятаны. Сюды таксама налівaецца праклейка, і ўсё гэта добра мяшаецца. Праклейка атрымліваецца ад дробна-расьцёртага сталярскага клею, які варыцца з вялікай колькасьцю вады. Дзеля таго, каб клей не прыгарэў, яго гатуюць у пасудзіне, якая апушчаецца ў гарачую ваду. Калі праклейка зьлёгку будзе склейваць пальцы, то яна і будзе добрай для ўжываньня.

Праверыць якасьць фарбы можна, калі пафарбаваць ёю якую-небудзь рэч. Калі фарба блішчыць (пасьля таго, як яна высахне)—клею вельмі многа, калі адкідаецца—клею паложана мала.

---

### ЗЬМЕСТ

*Год выданьня 5-ты.*

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!



УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 м-ц — р. 20 к.
„ 3 м-цы— р. 60 к.
„ 6 ц-аў 1 р. 20 к.

# Беларускі Піонэр

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

№ 4 ооооооооо ЛЮТЫ ооооооооо 1929 г.

# ЭСКІМОСІК КІШ

*Апавяданьне ДЖЭКА ЛЁНДАНА*

*Малюнкі С. ВАЛУЦКАГА*

## ГНЕЎ КІША



Маленькі эскімосік Кіш быў вельмі растаропным хлопчыкам, дужым і здаровым. Ён бачыў сонца трынаццаць разоў, бо ў тэй краіне сонца штогод зьнікае, і ўсё хаваецца ў цемру, а на наступны год зноў прыходзіць сонца, каб людзі зноў маглі абагрэцца.

Бок, бацька Кіша, быў вельмі сьмелым чалавекам, але загінуў у час голаду, калі пашоў на паляваньне на *палярнага* мядзьведзя; ён цаной свайго жыцьця выратаваў ад галоднай сьмерці ўсю сваю вёску. З гарачкі ў барацьбе ён блізка падскочыў да мядзьведзя, схапіўся з ім і быў радушаны на-сьмерць; але і мядзьведзь усё-ж такі быў забіты, а з тае прычыны, што на ім было шмат мяса, вяскоўцы выратаваліся ад галоднай сьмерці. Кіш быў адзін сын у Бока, і пасьля яго сьмерці астаўся жыць з маткаю.

Людзі звычайна забываюцца аб усім, што здараецца з імі, і эскімосы хутка забыліся аб сьмелым і адважным учынку бацькі Кіша; а з тае прычыны, што Кіш быў яшчэ зусім малым, а матка яго—слабая жанчына, дык пра іх таксама хутка забыліся, і неўзабаве ім прышлося пасяліцца ў самай беднай і лядашчай *інгу* *).

*) Хата, якая зроблена з сьнегу і лёду.

Аднаго разу ўначы эскімосы сабраліся на сход у вялікай хаце Клош-Квана, правадыра племені, і тады Кіш даказаў ім усім, што ў жылах яго цячэ мужная кроў і што ён ужо больш не маленькі хлапчук. Ён з паважнасьцю мужчыны ўзьняўся на ногі і пачаў спакойна чакаць, пакуль стане зусім ціха ў хаце.

— Праўда, што мне і маёй матцы даюць мяса,—сказаў ён,— але гэта мяса часта старое і тугое і, апроч таго, у ім вельмі шмат касьцей.

Усе паляўнічыя, як старыя і сівыя, так і маладыя і дужыя, былі зьдзіўлены. Яны ніколі яшчэ ня чулі, каб хлапчук разважаў як стары і гаварыў ім проста ў вочы такія крыўдныя словы.

Спакойны і сур'ёзны Кіш гаварыў далей:

— Я кажу гэта дзеля таго, што ведаю, што бацька мой, Бок, быў вялікім паляўнічым. Кажуць, што ён адзін здабываў больш мяса, чым два другіх добрых паляўнічых; што ён сам, уласнымі рукамі, дзяліў гэта мяса, і што ён сам сачыў за тым, каб самая лядашчая бабулька і самы стары дзед атрымалі сваю долю.

— На-на-на! — закрычалі мужчыны.—Праганеце гэтага хлапчука. Палажэце яго спаць. Ці-ж ён мужчына, што так гаворыць з пажылымі людзьмі і старымі.

Але Кіш спакойна чакаў, пакуль уціхамірыцца шум.

— У цябе ёсьць жонка, Уг-глук,—сказаў ён,—і ты гаворыш за яе. А ў цябе, Масук, ёсьць жонка і маці і ты гаворыш за іх. У маёй маці нікога няма апроч мяне, вось чаму гавару я. І вось што я скажу вам: бацька мой, Бок, памёр таму, што быў вельмі ўжо гарачым чалавекам на паляваньні, і, па справядлівасьці, я, сын яго, і Айкіга, жонка яго і мая маці, павінны мець досыць яды, пакуль у вёсцы ёсьць мяса. Я, Кіш, сын Бока, сказаў!

Ён сеў, уважна прыслухоўваючыся да абурэньня і протэсту, якія выклікаліся яго словамі.

— Каб хлапчук гэткі адважыўся гаварыць на сходзе!—мармытаў стары Уг-глук.

— Няўжо дзеці ад соскі будуць вучыць нас, мужчын?—грубым голасам пытаўся Масук.

Гнеў мужчын быў вельмі вялікі. Яны загадалі яму ісьці спаць, што ён зусім не атрымае мяса, і пагражалі нават набіць яго за такую сьмеласьць.

Вочы Кіша заблішчалі, кроў стукнула яму ў твар, і ён зноў ускочыў на ногі, абсыпаемы гнеўнай лаянкай.

— Выслухайце мяне, усе вы!— крыкнуў ён.—Я ніколі больш ня буду гаварыць на сходзе датуль, пакуль людзі ня прыдуць да мяне і ня скажуць: „Добра будзе, Кіш, калі ты скажаш слова. Гавары, бо мы гэтага хочам“. Выслухайце-ж цяпер маё апошняе слова. Бок, бацька мой, быў вялікім паляўнічым. Я, сын яго, таксама пайду на паляваньне,



*Выслухайце маё апошняе слова...*

каб здабываць сабе мяса. І ведайце ўсе вы, што здабыча мая будзе падзелена справядліва. І ніводнай удаве, ніводнаму слабаму ці хвораму ня прыдзецца плакаць ад голаду ў той час, як дужыя мужчыны будуць стагнаць ад болі ў жываце, таму што аб'еліся мясам. Прыдуць дні, калі сорамна будзе тым дужым, хто есьць вельмі многа. Я, Кіш, сказаў гэта!

Калі ён вышаў з хаты, усьлед за ім пасыпаліся пагардныя, насьмешлівыя крыкі, але ён моцна сьціснуў зубы і пашоў сваёй дарогай, не азіраючыся ні направа, ні налева.

На наступны дзень ён накіраваўся ўздоўж берагу,—туды, дзе зыходзіцца лёд з зямлёю. Тыя, хто бачыў яго, заўважылі, што ён нёс свой лук з вялікім запасам стрэл з завостранымі касьцямі, і што за плячыма ў яго было вялікае бацькаўскае кап'ё.

Гэта выклікала шмат сьмеху ў людзей, шмат гаворкі, бо ніколі нічога падобнага не здаралася. Ніколі яшчэ хлапчукі ў такія гады не хадзілі на паляваньне, ды яшчэ адзін. Эскімосы маталі галовамі, робячы розныя прадугадваньні; кабеты з жаласьлівасьцю пазіралі на матку Кіша, Айкігу, твар якой быў сур'ёзны і сумны.

— Ён борзда вернецца,— казалі яны, каб супакоіць яе.

— Няхай ён ідзе на паляваньне—гэта будзе для яго добрым урокам,—казалі паляўнічыя.—Ён зараз вернецца і стане спакойным, і размовы яго будуць мяккімі да сьмерці яго.

## ТАЕМНАСЬЦЬ КІША

Мінуў дзень, мінуў другі; на трэці наляцела страшная навальніца, а Кіш усё ня прыходзіў. Айкіга рвала на сабе валасы і вымазала свой твар нагарам ад цюленевай тлустасьці ў адзнаку жалобы. Жанчыны абсыпалі мужчын горкімі папрокамі за тое, што яны пакрыўдзілі малога і былі прычынай яго сьмерці. Мужчыны нічога не адказвалі і рыхтаваліся ісьці шукаць цела Кіша, як толькі сунімецца навальніца.

На наступны дзень, рана яшчэ, Кіш, як таго й ня было, прышоў у вёску. На плячох ён нёс цяжкі кавалак мядзьведзіны. У яго паходцы і ўсёй постаці адчувалася паважнасьць, гаворка яго была сталай і сур'ёзнай.

— Вазьмеце сабак і сані і йдзеце па маіх сьлядох,—сказаў ён.—Там на лёдзе, шмат мяса—забітая мядзьведзіца і два вялікіх мядзьвёдкі.

Айкіга, матка, была вельмі рада, але Кіш, як сталы мужчына, сказаў толькі:

— Хадзем, Айкіга, будзем есьці. А потым я лягу спаць, бо я вельмі змарыўся.

І ён увайшоў у інгу і ўсмак пад'еў, а потым спаў аж цэлых дваццаць гадзін.

Яго паводзіны спачатку выклікалі толькі сумненьні і спрэчкі. Паляваць на палярнага мядзьведзя вельмі цяжка і страшна, а забіць мядзьведзіцу з дзецьмі—гэта ўжо штосьці нячуванае для Кіша. Людзям ніяк не хацелася паверыць, што хлапчук Кіш, ды яшчэ адзін, без усялякай дапамогі зрабіў такое цуда.

Нарэшце, паляўнічыя накіраваліся ў дарогу, мармычучы, што ён, напэўна, не расьсек тушы забітых мядзьведзяй. На далёкай поўначы гэта звычайна робіцца ўсьлед-жа, як толькі забіваюць зьвера, бо ў іншым разе мяса зьмярзаецца і потым ніякімі нажамі яго не парэжаш, а ўзваліць на сані і цягнуць па лёдзе мёрзлую мядзьвежую тушу, вагою пудоў з восемдзесят, таксама нялёгкая справа.

Зьявіўшыся на месца, паляўнічыя ўбачылі ня толькі забітых зьвяроў, але і пераканаліся ў тым, што Кіш, як сталы паляўнічы, выняў вантробы.

З гэтага дня ўсе загаварылі аб таемнасьці Кіша, і таемнасьць эта з кожным днём станавілася ўсё больш незразумелай.

У другі раз ён забіў рослага маладога мядзьведзя, а ў трэці—вялікага старога мядзьведзя і мядзьведзіцу.

Ён звычайна ішоў на трычатыры дні, але здаралася й так, што ён цэлы тыдзень вандраваў па ледзяной цаліне. Ён заўжды адмаўляўся браць з сабою каго-небудзь, і гэтаму людзі яшчэ больш дзівіліся.

— Як ён гэта робіць?—пыталіся яны адзін у другога.—Ён ніколі не бярэ з сабою нават сабакі, а сабака можа шмат дапамагчы.

У вёсцы пачалі заводзіць гутаркі аб чараўніцтве.

— Яму памагаюць злыя духі,—казалі некаторыя,—і ад гэтага яму так шанцуе.

— А можа гэта ня злыя, а добрыя духі,—казалі другія.—Хто ведае?

Між іншым, у паляваньні Кішу заўсёды шанцавала, і менш спрытныя паляўнічыя толькі тое й рабілі, што вазілі ў вёску яго здабычу.

Дзялілася здабыча заўсёды па справядлівасьці. Таксама, як і яго бацька, ён заўсёды сачыў за тым, каб самая лядашчая бабулька і самы стары дзед атрымлівалі-б роўную з усімі долю, і пакідаў сабе роўна гэтулькі, колькі трэба было на жыцьцё. Дзякуючы гэтаму і дзякуючы яго спрыту на паляваньні, людзі паважалі яго і пачалі ўжо гаварыць аб тым, каб зрабіць яго правадыром пасьля старога Клош-Квана. Успамінаючы аб усім, што ён зрабіў, яны чакалі, што ён зноў

прыдзе на сход, але ён ня прыходзіў, а ім сорамна было паклікаць яго.

— Я парашыў пабудаваць сабе інгу,—сказаў ён аднойчы Клош-Квану і яшчэ некалькім паляўнічым.—Яна павінна быць вялікай і раскошнай, каб мне і маёй матцы, Айкіге, добру было жыць у ёй.

— Так,—важна падтрымалі яго эскімосы, ківаючы галовамі.

— Але ў мяне няма часу. Мая справа—паляваньне, і на гэта я трачу ўвесь свой час. Будзе справядлівым, калі мужчыны і жанчыны, якія кормяцца маёй здабычаю, пабудуюць для мяне і гу.

Інгу была збудавана нават раскашнейшая і лепшая за будову Клош-Квана. Кіш і яго матка перабраліся туды, і Айкіга ўпяршыню пачала жыць у багацьці і гонары з таго часу, як памёр яе мужык.

Але эскімосы ўсё-ж вельмі цікавіліся таемнасьцю Кіша, а аднойчы Уг-глук перад усімі абвінавaціў яго ў чарах, проста ў вочы.

— Цябе абвінавачваюць,—злосным тонам загаварыў Уг-глук,—ты маеш сувязь з злымі духамі, і таму табе ў паляваньні заўсёды шанцуе.

— Хіба мяса дрэннае!—адказаў Кіш.—І хіба хто-небудзь у вёсцы захварэў ад таго, што зьеў яго. Адкуль ты ведаеш, што гэта чараўніцтва? Ці, можа, ты толькі так думаеш ад таго, што цябе зьядае зайздрасьць?

Уг-глук змоўк, яму стала сорамна і, калі ён адышоўся прэч, жанчыны пасьмяяліся з яго. Але праз некаторы час, на сходзе, пасьля доўгіх спрэчак, парашылі паслаць за ім усьлед шпіёнаў, калі ён зноў пойдзе на паляваньне, і такім чынам даведацца аб спосабах яго паляваньня.



## ПАЛЯВАНЬНЕ КІША

Калі ён у наступны раз пашоў на паляваньне, два маладых эскімосы, Бім і Баун, самыя спрытныя паляўнічыя ў вёсцы, пашлі ўсьлед за ім, стараючыся, каб быць незаўважанымі.

Вярнуліся яны праз пяць дзён, і вочы іх блішчалі, і языкі дрыжалі ад нецярплівасьці расказаць усё, што яны бачылі.

У хаце Клош-Квана быў сьпешна скліканы сход, і Бім пачаў апавядаць.

— Браты! па вашаму загаду мы пашлі па сьлядох Кіша, і пашлі мы асьцярожна, каб ён ня мог нас убачыць. Гэтак ішлі мы палавіну дня, пакуль Кіш не спаткаў мядзьведзя. Гэта быў вельмі вялікі мядзьведзь.

— Большых ня бывае,—дадаў Баун і пачаў сам апавядаць далей.—І мядзьведзю гэтаму зусім не хацелася мець справу з Кішам; ён зьвярнуў у бок і памалу пашоў прэч па лёдзе. Мы бачылі гэта з скалы па беразе. Мядзьведзь ішоў проста да нас, а за ім ішоў Кіш, але без усялякага страху.

Ён моцна крычаў на мядзьведзя, размахваў рукамі і страшна шумеў. Тады мядзьведзь узлаваўся, стаў дубка і замармытаў, але Кіш падышоў проста да мядзьведзя...

— Так,—падхапіў Бім і цягнуў далей апавяданьне.—Кіш падышоў да мядзьведзя. Мядзьведзь пусьціўся ісьці за ім, а сам Кіш пабег прэч. Калі ён бег, дык кінуў на сьнег маленькі круглы шарык. Мядзьведзь спыніўся, панюхаў яго, а потым праглынуў. А Кіш усё бег і ўсё кідаў на сьнег маленькія круглыя шарыкі, а мядзьведзь усё глытаў іх.

Пачуліся выкрыкі недаверлівасьці, а Уг-глук дык проста заявіў, што гэта хлусьня.

— Мы бачылі гэта ўласнымі вачыма,—заявіў Бім.

— Уласнымі вачыма,—пацьвердзіў Баун.—І ўсё гэта цягнулася датуль, пакуль мядзьведзь рап-



*Кіш падышоў і закалоў яго на-сьмерць.*

там зноў стаў дубка, зароў ад болі і, як зьбянтэжаны, замахаў пярэднімі лапамі. А Кіш адбегся далёка адгэтуль. Мядзьведзь зусім не заўважваў яго, бо маленькія шарыкі учынялі яму страшэнную боль.

— Так, страшэнную боль,—перабіў яго Бім,—бо ён дрэпаў сам сябе і скакаў па сьнягу, быццам дурасьлівае сабачанё, але па яго рыканьню і енку можна было зразумець, што гэта зусім ня гульня, а што яму вельмі баліць. Ніколі я нічога падобнага ня бачыў. Праз некаторы час мядзьведзь аслаб і змарыўся, бо ён быў вельмі цяжкі і вельмі доўга падскакваў; потым ён пашоў уздоўж берагу, павольна матаючы галавой і іншы раз прысядаючы і равучы. А Кіш ішоў усьлед за мядзьведзем, а мы ішлі усьлед за Кішам, і гэта цягнулася ўвесь дзень і яшчэ тры дні. Мядзьведзь зусім аслаб і не пакідаў стагнаць ад болю.

— Гэта чары!—закрычаў Уг-глук.—Гэта напэўна чары!

— Ня ведаю,—адказаў Бім.—Я гавару толькі тое, што бачылі мае вочы.

Баун зноў замяніў Біма:

— Мядзьведзь ішоў то ў адзін бок, то ў другі,—гаварыў ён,— то йшоў па сваіх уласных сьлядох, то рабіў вялікія кругі і, нарэшце, зноў прышоў да таго самага месца, дзе К ш у першы раз убачыў яго. К гэтаму часу ён так ужо аслаб, што ня мог ужо далей паўзьці, і Кіш падышоў да яго і закалоў яго на сьмерць.

— А потым што было?— запытаўся Клош-Кван.

— А потым ён пачаў злупліваць скуру, а мы пабеглі сюды, каб прынесьці весткі аб паляваньні Кіша.

## СЛАВА КІША

Праз цэлы дзень жанчыны цягалі мяса мядзьведзя, у той час як мужчыны радзіліся на сходзе.

Калі Кіш вярнуўся, за ім паслалі, каб ён прышоў на сход. Але ў адказ ён заявіў, што ён вельмі галодны і змарыўся, і што яго інгу даволі добрая і ў ёй можа зьмясьціцца шмат людзей.

Зацікаўленасьць эскімосаў была такой вялікай, што ўсе прысутныя, на чале з Клош-Кванам, усталі і накіраваліся ў інгу Кіша.

Ён у гэты час еў, але прыняў іх з гонарам і пасадзіў як належа сталаму чалавеку. Айкіга адчувала то ганарлівасьць, то сарамяжлівасьць, але Кіш быў зусім спакойны.

Клош-Кван спачатку расказаў яму, якія весткі прынесьлі Бім і Баун, і потым строга сказаў:

— Дык вось, Кіш, мы хочам, каб ты расказаў нам пра свае спосабы паляваньня. Ёсьць у гэтым чары ці не?

Кіш паглядзеў на яго і ўсьміхнуўся.

— Не, клош-Кван, ніякіх чараў я ня ведаю. Але я прыдумаў лёгкі спосаб забіваць мядзьведзяў,—вось і ўсё. Гэта ня чары, а кемлівасьць.



*Ён узяў у рукі тонкую палоску кітовага вуса і паказаў яе ўсім.*

— І кожны чалавек можа гэта зрабіць?

— Кожны чалавек.

Надышло доўгае маўчаньне. Усе яны глядзелі адзін на другога, а Кіш даядаў свой абед.

— І... і ты... скажаш нам, Кіш?— запытаў нарэшце дрыжачым голасам Клош-Кван.

— Так, я скажу табе.—Кіш перастаў абгрызаць тлустую костку і ўзьняўся на ногі.—Гэта вельмі проста. Глядзі.

Ён узяў у рукі тонкую палоску кітовага вуса і паказаў яе ўсім. Канцы яе былі гострыя, як іголкі.

Гэту палоску ён сагнуў кружочкам і моцна сьціснуў у руцэ. Калі ён раптам раскамячыў кулак, палоска адразу выпрасталася. Потым ён узяў кавалак кітавага мяса.

— Вось так,—сказаў ён,— спачатку я бяру маленькі камяк мяса-тлустасьці і выразаю ў ім дзірку. У гэту дзірку кладу сагнутую палоску кітовага вуса і зьверху закрываю яшчэ кавалкам мяса. Потым гэта кладу ў сьнег і ўсё гэта зьмярзаецца ў адзін круглы маленькі шарык, мядзьведзь глытае гэты шарык, тлустасьць растае, палоска кітовага вуса з гострымі канцамі выпростваецца, і ад гэтага мядзьведзь становіцца хворым, а калі мядзьведзь саслабее, я забіваю яго кап'ём. Гэта вельмі проста.

Уг-глук сказаў: „О-о“, Клош-Кван сказаў: „А-а“, і кожны чалавек пасвойму выказаў сваё зьдзіўленьне, але ўсе зразумелі Кіша.

Гэткае паданьне пра Кіша, які жыў многа-многа гадоў таму назад на беразе палярнага мора. І таму толькі, што ён карыстаўся ня чарамі, а кемлівасьцю, ён дасягнуў таго, што стаў правадыром сваёй вёскі, хоць раней жыў у самай мізэрнай, лядаштай інгу.

І за ўвесь гэты час, у які ён жыў,—так кажа паданьне,—усё яго племя жыло ў дастатку, і ніколі ніводная ўдава, ніводзін слабы ці хворы ня плакалі ўначы ад таго, што ў іх ня было мяса.



# Кастусь Чатырмыкаў

*Апавяданьне* **Л. Буравіна** *Малюнкі* **Вало**

У школе Кастуся звалі „доўгавязым“, дый у атрадзе так, хоць гэта і забаранялася павадыром, а часта хто-небудзь возьме дый крыкне:

— Доўгавязы! Як гэта ты вырас гэтакім доўгім?

І сапраўды—Кастусь быў самым высокім у клясе і ў атрадзе, і хоць меў усяго 13 гадоў, але выглядаў значна старэйшым. Высокі, худы, з доўгімі сухашчавымі рукамі, што целяпаліся па бакох шчуплага тулава, задуменна хадзіў ён па атрадным клюбе і, сумуючы, разглядаў старыя, зьліняўшыя ад сонца і пылу плякаты, як быццам бачыў іх упяршыню. Яго доўгія вушы шырока растапырваліся з-пад лахматых валасоў, брудна-чорнага колеру, і на левым вуху, у тым месцы, дзе яно зрасталася з шчакою, вырасла доўгая бародаўка, падобная да блякла-ружовай палачкі.

Наогул, галава Кастуся была нязвычайнай. Доўгаватая, яна звужалася зьверху, нагадвала сабою агурок. Калі Кастусь хваляваўся ці быў чым-небудзь заклапочаны, яго галава быццам схілялася ўправа на доўгай худой шыі.

Але што асабліва прыкметным было ў Кастуся, дык гэта пальцы. Доўгія, сухія, яны маглі, здавалася, складвацца ў кожным суставе—нагэтулькі яны былі гібкімі і рухомымі.

У атрадзе Кастусь быў прыкладным піонэрам. Ён ніколі не пазьніўся на сходы і заняткі, заўсёды быў чыста памытым, кіпці зразаў кожны тыдзень. Яго піонэрскі гарнітур быў заўсёды чыстым і акуратным. Заўважылі, што дома Кастусь носіць нейкі другі гарнітур, а піонэрскую форму надзяе толькі тады, калі ідзе ў атрад. Калі павадыр зьвяна даручыў піонэрам вывучыць якую-небудзь песьню ці прачытаць артыкул з піонэрскай часопісі, Кастусь на другі дзень ведаў гэта напамяць.

Але ўсё-ж Кастусь лічыўся дрэнным піонэрам. Ён старанiўся ад сяброўскіх гульняў, ня ўдзельнічаў у шумных „махінацыях“, якія наладжвалі піонэры ў адсутнасьць павадыра. Піонэры абвінавацілі Кастуся ў „індывідуалізьме“.

Часта прыходзілася Кастусю цярпець за свой індывідуалізм. Наладзяць піонэры „сланя“, выстраяцца ў шэраг, паложаць адзін другому на плечы рукі, на гэты першы паверх сядуць другія піонэры, і гэтак ствараецца высокая піраміда. І вось іншы раз зацягнуць хлопцы Кастуся сілаю, пасадзяць на самую вышыню піраміды—„сланя“ і возяць па піонэрскім клюбе. Потым па каманде, піраміда рассыпаецца, і Кастусь кумілём ляціць уніз.

Кастусь ведаў, што гэта—„буза“. Ён адчуваў, што не па-піонэрску абыходзяцца з ім таварышы, але ніколі ня скардзіўся павадыру.

А павадыр таксама не далюбліваў Кастуся. Спачатку ён стараўся ўгаварыць Кастуся, даказваў яму, што трэба быць больш грамадзкім хлапцом, але потым, праканаўшыся, што яго вучэньне астаецца без карысьці—махнуў рукой.

* * *

Так і заставаўся Кастусь з боку ад свайго атраду. Прыдзе, бывала, на заняткі акурат у вызначаны час, і пакуль усе зьбяруцца, ходзіць па клюбе, разглядае плякаты і неяк дзіўна шлёпае губамі.

Але гэта толькі так здавалася, што Кастусь бяз ніякай мэты ходзіць па клюбе. На самай справе ён уважліва аглядваў кожную рэч і... вельмі шкода, што прыходзіцца пісаць аб дрэнных справах піонэраў, але калі мы ўзяліся ўсебакова апісаць Кастуся,—трэба пісаць пра ўсё.

За Кастусём лічыцца шмат чаго дрэннага. Ніхто гэтага не прыкмячаў. Усім здавалася, што цьвічкі, якімі прыбіваліся плякаты да сьцяны, неяк выпадкова самі вырываюцца. Але гэта ня было выпадковасьцю — цьвічкі вырываў Кастусь. Гэткая кепская прывычка была ў яго: толькі няхай убачыць які-небудзь цьвічок, пяро, проста кавалачак жалеза—абавязкова схавае ў сваёй кішэні.

Гэткі быў у яго ўжо нораў, і трэба прызнацца, што у гэтых адносінах Кастусь быў найгоршым піонэрам. Але атрад гэтага ня ведаў. Кастусь заўсёды стараўся што-небудзь сьцягнуць, каб ніхто ня бачыў. Атрад лічыў Кастуся дрэнным піонэрам толькі за яго маўчаньне, за сур'ёзнасьць, за гібкія жукападобныя пальцы.

Якіх толькі нагрузак ня ўзвальвалі на Кастуся, ён безнадзейна правальваў усякую працу. Назначылі яго аднойчы атрадным бібліятэкарам. Перадалі ключы ад шафы з кнігамі і сказалі: „выдавай піонэрам кнігі для чытаньня“. Тры разы ў тыдзень, у вызначаныя саветам атраду дні і гадзіны, прыходзіў Кастусь у клюб, адчыняў шафку з кнігамі і задуменна садзіўся побач. Ні разу не параіў якую-набудзь кнігу, не распытваў піонэраў аб прачытаным, а калі хто-небудзь прасіў яго даць што-небудзь цікавейшае, Кастусь гледзячы на столь, суха адказваў:—няма нічога цікавага! Усё барахло.



*Атрымлівай увесь гэты рыбны кірмаш!*

Праз два тыдні савет атраду пастанавіў зьняць Кастуся з гэтай працы. І калі шустрая, чорнавалосая Роза прышла да Кастуся і сказала:

— Перадай мне бібліятэку!— Кастусь упяршыню за ўвесь час усьміхнуўся і сказаў:

— Атрымлівай увесь гэты рыбны кірмаш!

Розачка атрымала „ўвесь рыбны кірмаш“ і ўселася на Кастусёвым месцы. Але Роза не здагадалася праверыць кнігі па сьпісу. А калі-б яна праверыла, то заўважыла-б недахват аднэй кніжкі. Гэта была адзіная кніжка ў атрадзе, якая расказвала, як трэба выпілоўваць і выразаць розныя фігуры з фанэры. Гэту кніжку забраў сабе былы бібліотэкар Кастусь.

Доўгі час заставаўся Кастусь бяз усякай піонэрскай нагрузкі. І, здавалася, ён быў надзвычайна здаволены. У атрад ён прыходзіў толькі на заняткі, ніколі не паказваючыся ў другія дні. А праз некаторы час Кастусь пачаў нават пазьніцца.

Зусім адбіўся хлапец ад атраду. Павадыр яго зьвяна, Сымон Краўцоў, рашыў яшчэ раз папрабаваць уцягнуць Кастуся ў піонэрскую працу. Назначылі Кастуся артыстым.

Доўга прасіўся доўгавязы не даручаць яму ніякай ролі.

З сьлязамі на вочах тлумачыў, што ня ўмее выконваць ролю бяспрытульнага ў п‘есе, але ў зьвяне пастанавілі: „калі Кастусь ня выканае пастановы зьвяна—ня будзе іграць у п‘есе ролі бяспрытульнага,—паставіць пытаньне аб выключэньні яго з атраду“.

Кастусь згадзіўся. Прышоў на рэпэтыцыю. Сваю ролю ён ведаў напамяць, але вымаўляў словы вяла, без ахвоты, бяз усякай цікавасьці, і калі гаварыў—ня рухаўся з месца, толькі хутка, хутка шавяліў сваімі доўгімі пальцамі.

Усім стала ясна, што Кастусь папсуе п‘есу. Прышлося яго вызваліць і назначыць „бяспрытульным“ другога піонэра.

Кастусь неяк саромяўся таго, што лічаць яго нікуды нявартым. Ён адносіўся да ўсяго абыяка, стараўся не спатыкацца ні з кім.

Але адзін раз увесь атрад быў зьдзіўлен: Кастусь, гэты „даўгавязы“, гэты „індывідуалісты“, „эгоісты“—так называлі яго піонэры,—гэты Кастусь плакаў перад усім атрадам.

Трэба сказаць, што атрад, у якім знаходзіўся Кастусь, быў ня з лепшых атрадаў гораду. Мы ўжо гаварылі аб „махінацыях“ піонэраў з „сланём“, мы зьлёгку ўспомнілі аб спазьненьнях на заняткі, і мы павінны прызнацца, што ў бібліотэцы, якую Кастусь назваў „рыбным кірмашом“, было сапраўды вельмі мала добрых і карысных кніг.

І вось у атрадзе завёўся прымітыўны звычай: піонэры на атрадных зборах выяўлялі „адмоўныя бакі“ сваіх таварышоў. Здавалася-б, што нічога кепскага ў гэтым няма. Трэба-ж папярэдзіць таварышоў, „выправіць“ іх. Але на самай справе ніякага выпраўленьня не атрымлівалася.



*Павадыр зьвяна зрабіў даклад...*

Гэтак яно было і ў той славуты дзень. Стаў атрад гаварыць аб паводзінах піонэра Кастуся Чатырмыкава. Павадыр зьвяна зрабіў даклад. Ён расказаў усё, што ведалі піонэры аб Кастусю: і такі ён і сякі. Ніхто не адхіляў відавочных фактаў, толькі маленькая Зіна, нядаўна пераведзеная з „акцябрат“, прапішчала:

— А чаму ён такі індывідуаліст? Можа яго мама ня б‘е?

Тады павадыр запытаў Кастуся:

— Цябе мама ня б‘е?

Кастусь у адказ заплакаў.

Тут вось усе і зьдзівіліся. Але яшчэ больш зьдзівіліся піонэры, калі Кастусь праз сьлёзы, крыкнуў, і крыкнуў так голасна:

— Ня б‘е мяне мама! І наогул адчапецеся ад мяне!

Але піонэры не адчэпліваліся. Адзін за другім яны прасілі слова і стараліся пераканаць сход, што Кастусь ува ўсім вінаваты, што атрад і зьвяно прынялі ўжо ўсе захады да таго, каб нагрузіць яго працай, але ён ні ў чым не спраўляецца. Гаварылі аб тым, што Кастусь трымае сябе зусім не па-піонэрску. Адны прапанавалі яго выключыць, другія раілі вызначыць яму тэрмін для выпраўленьня.

На гэтым апошнім спыніліся. У пратаколе атраднага сходу было запісана, што „Кастусю даецца 2-хтыднёвы тэрмін для выпраўленьня ўсіх адзначаных недахопаў“.

А ў наступную нядзелю Кастусь не зьявіўся на сход атраду... Не зьявіўся Кастусь і на сход зьвяна і на другі сход атраду. Піонэры ўжо пагаварвалі аб тым, што Кастусь парашыў „выступіць“ з атраду. І на адным з сходаў атраду пастанавілі лічыць Кастуся Чатырмыкава „мэханічна выбыўшым“.

* * *

Так-бы яно і засталося, калі-б адзін раз маленькая Зіначка не зайшла да Кастуся ў хату. Гэта здарылася зусім выпадкова: раніцай Зіна сьпяшалася ў школу. Раптам аднекуль яна пачула, што яе клічуць. Зіна аглянулася і ўбачыла, што маленькае вакенца ў старой хатцы адчынілася і з яго высунулася нечая галава, нагадваючая агурок. Гэта быў Кастусь Чатырмыкаў. Зіна падышла да яго і запыталася:

— Чаму ты, доўгавязы, у атрад перастаў хадзіць. А мы цябе ўжо „мэханічна выбылі“.

Кастусь скрывіўся і ціха прагаварыў:

— А я, Зіна, хачу піонэрам быць. Я-ж хварэў 2 тыдні. Мама на вуліцу ня пускае. Мне нават не дазволена акна адчыняць; убачыць—аблае.

Тут толькі Зіна ўспомніла, што ў школе таксама ня відаць было Кастуся. Але гэта неяк не прыкмячалася, бо звычайна ў часе перапынку Кастусь заставаўся ў клясе і сядзеў на сваёй лаўцы.

Зіна расказала ў атрадзе, што Кастусь быў хворы і зусім ня хоча выходзіць з атраду.

Піонэры адчулі, што зрабілі неяк нядобра. Ім здалося, што яны ў нечым вінаваты перад Кастусём. І калі Зіна прапанавала наведаць хворага таварыша, усе

з радасьцю згадзіліся. Піонэрам здавалася, што гэтым наведваньнем яны некалькі зьмякчаць вастрату сваіх мінулых адносін да Кастуся.

* * *

Цесная кватэра Кастусёвай мамы (бацька Кастуся быў забіты ў часе грамадзянскай вайны на фронце) запоўнілася пісклівымі размовамі піонэраў.

Піонэры ўваліліся ў хатку вясёлаю гурбою. Радасна пацiскалі руку Кастусёвай матцы, пахлопвалі па плячы самога Кастуся. А калі Абраша Шнэйдэр крыкнуў весела: „Ну, доўгавязы, як жывеш?"—усе засыкалі на яго, кожны разумеў, што цяпер ня час зьдзеквацца з Кастуся.

Спатканьне адбывалася ў першым пакоі кватэры, на кухні. А калі піонэры перайшлі ў другі пакойчык, яны ад зьдзіўленьня нават прыціхлі.

Гэты пакойчык, з адным вузенькім ваконцам на вуліцу, быў завалены дошкамі, стружкамі, бляхаю. Палову пакойчыка займаў варштат, грубой работы, відаць было, што сам Кастусь рабіў яго; у правай частцы варштату ляжала некалькі сталярскіх інструмантаў. На сьценах над варштатам расьцягнуліся ў два рады драўляныя палічкі, на якіх было панастаўлена розных модэляй машын, цягнікоў, трамваяў.

— Наш Кастусь—вынаходца!—закрычаў на ўсё горла павадыр зьвяна Краўцоў. Ён першы прарваў цішыню зьдзіўленьня. Усьлед за ім закрычалі піонэры:

— Сапраўды вынаходца!

—ПіонэрскіКазанцоў!

— Узнагародзіць яго ордэнам працоўнага сьцягу!

Доўга шумелі піонэры. Цiскалі Кастусю руку, мацалі стружкі, варштат, разглядалі інструманты. Потым, калі шумець абрыдла, Кастусь пачаў паказваць піонэрам свае модэлі, тлумачыць, як яны зроблены. Апавядаў, як цяжка было здабываць матар'ял для працы. І раптам расказаўшы, як ён цягнуў старую, напалову гнілую, дошку з суседняга панадворку для пабудовы модэлі Волхаўбуду, Кастусь раптам змоўк.

Як быццам-бы спатыкнуўся Кастусь, быццам успомніў нешта і, успамянуўшы, апёкся цяжкаю думкай.

— Я... я... павінен вам... павінен сказаць... цьвічкі... і фанэру ад насьцен-газэты... я павінен... і кніжку з бібліотэкі... я...

Кастусь стаяў, пачырванеўшы, хутка шавяліў гібкімі пальцамі, неяк дзіўна моргаючы вачыма.

Зьдзіўлена глядзяць на Кастуся піонэры. Не разумелі, чаму ён заікаецца.

Не разумелі, аб якіх цьвічках, аб якой кніжцы гаворыць ён. Але ніхто не адважваўся запытацца што-небудзь, кожны разумеў, што Кастусь гаварыў нешта вялікае, важнае.

Гэтую ціш прарвала Кастусёва маці. Яна ўвайшла, абціраючы руку хвартухом і, весела ўсьміхаючыся, акінула ўсіх піонэраў далікатным поглядам маткі.

— Ужо ўсё вам паказаў мой балаўнік? Колькі мне бяды праз яго! Праўда, хлопец ён працавіты, сам падмяце, сам зложыць, але і мне праца ёсьць—пыляцца яго цацкі, а я, нібы маленькая, пыл сьціраю, клапачуся аб іх.

Так і не расказаў Кастусь аб сваім важным, вялікім, злачынстве.

* * *

Але праз тры дні, калі Кастусь ачуняў і прышоў у школу, на першым-жа перапынку ён адвёў у бок Зінку, перадаў ёй акуратна зложаны лісток паперы.


*Яны ад зьдзіўленьня нават прыціхлі.*

— Перадасі гэта ў зьвяно,—прашаптаў ён і, сьпяшаючыся, уцёк у клясу.

У той-жа вечар зьвяно чытала ліст.

Вось аб чым пісаў Кастусь:

— „Дарагія таварышы, піонэры 3-га зьвяна імя таварыша Рыкава. Я, піонэр вашага зьвяна, Кастусь Чатырмыкаў, пішу вам гэты ліст. Ня думайце, дарагія таварышы, што я злодзей. Я заўсёды плакаў ад таго, што бяру чужыя рэчы для сваіх модэляй. Мама іх называе цацкамі, але гэта ня цацкі, а я хачу быць інжынэрам, хачу будаваць заводы і машыны, а цьвікоў і дошчак у мяне няма. Я, можа, сапраўды злодзей, што браў на дварэ ў старога шаўца Янкеля дошкі, і што занёс да хаты фанэру з насьценгазэты, якую вы лічыце прапаўшай, і, што ўсе цьвічкі з сьцен я выцягваў. Ня лічэце мяне, таварышы, злодзеем, а то я не змагу быць піонэрам. А піонэрам я павінен быць, як будучы будаўнік, заўсёды.

А што вы лічылі мяне эгоістым, дык гэта няправільна. Мне сумна ў нас у атрадзе, дарагія таварышы. Я магу выпаўняць нагрузку бяспрытульнага ў п'есе, і мне заўсёды весялей, калі я адзін. А калі ў нас у атрадзе рабілі даклады аб жыцьці Леніна, то я потым, прышоўшы да хаты, плакаў. Па наказам Ільліча, трэба быць грамадзкім, трэба рабіць усё на карысьць рабочае клясы, а я ўсё рабію для сябе, у сваім пакоі і загэтым, ідучы на наказам Леніна, і каб вы ня лічылі мяне эгоістым і злодзеем, я заўтра-ж прынясу ўсе свае модэлі і мой варштат, і мае інструманты, і дарую іх у карысьць нашага піонэрскага атраду. І прашу організаваць у атрадзе гурток будучых будаўнікоў-соцыялістычных заводаў і машын—інжынэраў з жадаючых нашых таварышоў, і мяне прашу запісаць у гэты гурток першым. І яшчэ прашу ня лічыць мяне эгоістым, бо я ня гэткі.

Піонэр 3-га зьвяна імя т. Рыкава
Кастусь Чатырмакаў".

---

**Пытаньню сельска-гаспадарчай работы—будзе прысьвечаны № 5 час. „Бел. Піонэр".**

**Раскажы аб гэтым у сваім атрадзе, школе.**

# НАША ГАЗЭТА

№ 4 Насьценная газэта чытачоў „Бел. Піонэра“ № 4


## РАЙБЮРО БЛІЖЭЙ ДА ПІОНЭРАЎ.

*Улетку 1928 году райбюро Ю.П. гарраёну (цяпер Фрунзаўскага) давала розныя заданьні асобным атрадам, склікала нарады піонэр-актыву (павадыроў зьвеньняў, піонэраў-комсамольцаў і г. д.). Наогул, піонэры дапамагалі ў працы райбюро, была організавана з піонэраў інструктарская група, якая ўдзельнічала ў працы па абсьледваньню атрадаў. Наладжваліся конфэрэнцыі піонэраў па пытаньнях інтэрнацыянальнага выхаваньня, выхадаў у лягэры і г. д.*

*Цяпер райбюро перастала чамусьці скарыстоўваць самадзейнасьць і актыўнасьць піонэраў. З таго часу перамянілася 4 старшыні райбюро, ніводзін з іх не пацікавіўся тым, каб прыцягнуць піонэраў да працы ў бюро.*

*У выніку — сярод асобных піонэраў узьнікае нездавальненьне такім становішчам. Шмат хто з нас з ахвотай папрацаваў-бы ў райбюро, выконваў-бы пэўныя заданьні, бо ў атрадзе для ўсіх піонэраў не хапае працы. Вось крыніца той „бузы“, на якую скардзяцца павадыры.*

*Дзяткор* Гуманаў.

г. Менск.

## ПРЫКЛАДЫ ДОБРАЙ РАБОТЫ.

### ЗА ДОБРЫ ГАРСАВЕТ.

Сход 14 піонэр - атраду, заслухаўшы справаздачу дэпутата ў гарсавет аб праробленай працы за мінулы час, ухваліў аднагалосна прыняць актыўны ўдзел у справаздачна-выбарчай кампаніі гарсавету.

Мы напісалі некалькі лёзунгаў і вывесілі іх у НКФ. Разьнесьлі ўсім служачым позвы на справаздачны сход. сабралі ад іх заўвагі аб недахопах у працы гарсавету і сваіх дэпутатаў для зьмяшчэньня ў насьценгазэце.

У час перавыбарчага сходу арганізавалі дзіцячы пакой, каб даць магчымасьць жонкам служачых прыйсьці на справаздачны сход.

У дзіцячым пакоі было весела: піонэры зацікавілі дзяцей; чыталі ім цікавыя кніжкі, гулялі з імі. У дзень сходу, к канцу заняткаў, у школах увесь атрад са сьцягам, з барабанам разышоўся па пакоях НКФ. Служачыя выбягалі з пакояў глядзець, што здарылася, што за шум і чаму ў час заняткаў грыміць барабан. А мы ў гэты час у пакоях праводзілі лятучыя мітынгі, заклікаючы ўсіх служачых на справаздачны сход. На справаздачным сходзе адзін з піонэраў выступіў у спрэчках, паказваючы на адсутнасьць у школах майстэрняў, клюбаў і фізычных габінэтаў і г. д.

Мы прачыталі выпрацаваны намі наказ, сход яго ўхваліў і прыняў яго аднагалосна.

Пікор Касаджыкаў.

### ДАПАМОГА СЕЛЬСАВЕТУ.

*На сходах піонэр-атрадаў самымі галоўнымі пытаньнямі былі пытаньні дапамогі сельсаветам у перавыбарчай кампаніі. У кожным атрадзе гэтае пытаньне разьбіралася вельмі ўважліва і энэргічна. Яшчэ да перавыбараў у кожным атрадзе арганізаваліся нянькавыя камісіі.*

*Вось прышоў час перавыбараў. Цэлымі атрадамі ходзяць піонэры па хатах і разносяць абвесткі, клікаюць на сходы і г. д. Праз гэта на сходы зьявіліся амаль што ўсе працоўныя м-ка Ляды, а ў першую чаргу—бацькі піонэраў.*

Калядаў В.

м. Ляды.



### ПАХОД У ВЁСКУ.

Недалёка ад Узды ляжыць вёска Бярвішчы. Наш Узьдзенскі атрад Ю. П. парашыў арганізаваць там зьвяно піонэраў.

Летам мы хадзілі ў вёску, дзе праводзілі сходы атраду, на якіх прысутнічалі вясковыя дзеці. Праз кароткі час было арганізавана там зьвяно піонэраў з дзяцей батракоў і беднякоў. На заняткі зьвяна іншы раз прыходзіла каля 30—35 вясковых дзяцей.

Усе гэтыя дзеці маюць жаданьне уступіць у атрад, але бацькі ня пускаюць. Каб больш азнаёміць насельніцтва з работай піонэраў, наш атрад правёў у гэтай вёсцы вечар. Заля была запоўнена сялянамі і сялянкамі вёскі, якія прышлі паглядзець, што пакажуць піонэры. Усе былі здаволены вечарам і прасілі часьцей наведваць вёску. Пасьля вечара ўступілі ў атрад 3 дзяўчынкі, якія раней баяліся ўступаць у піонэры.

Пучынскі Іцка.

Узда, Менскай акр.




### ПРАЦУЮЦЬ.

(*г. Ворша*).

Пры саюзе Працасьветы  
Існуе атрад вось гэты.  
Зьвеньні ўсе працуюць добра  
І актыўна, і харобра,  
А чацьвёртае зьвяно  
Ў працы, брат, ні „тпру“, ні „но“.  
І па простай-жа прычыне:  
Павадыр зьвяна—дзяўчына—  
Працавала-б ды—нагрузка...  
Дзеля працы часу вузка.  
Ну, а Шура—помважаты,  
Дык лянуецца занадта.  
Чым пайсьці калі на зборы,  
Дык яна табе ня хвора...  
Лепш памераць тратуары  
(Часам, з хлопцамі упары).

### ЦІКАВЫЯ СІНІЧКІ.

Яшчэ гады чатыры таму назад, у той час, калі я жыў у вёсцы Жылічах, у Бабруйшчыне, мяне вельмі зацікавіла жыцьцё птушак. Улетку я рабіў над імі розныя нагляданьні, а зімою надумаўся карміць іх. Для гэтага я зрабіў маленькую скрыначку, шырынёй і таўшчынёй у 5 см., і даўжыней у 25 см. Уздоўж скрыначкі прыбіў тоненькую палачку (каб было на чым сядзець птушкам), і сваю простую кармушку прымацаваў да вакна. У кармушку насыпаў хлебных крошак, аўсу, ячменю, проса і трохі інш. зярнят.

Пад вечар я пачуў пад вакном нейкі стук, а калі паглядзеў, дык убачыў траіх прыгожых птушак-сінічак. Усе яны сядзелі на палачцы і дзяўблі зярняты.

Увечары птушкі адляцелі і назаўтра не прылятали. Я занепакоіўся і ніяк ня мог зразумець прычыны іхняга адлёту. Птушкі прыляцелі толькі на трэці дзень, але ўжо прыляцела іх больш. У мяне тады зьявілася думка: ці ня лёталі гэтыя сінічкі па другіх сваіх сясьцёр.

З таго часу прайшло ўжо некалькі год, але я і да гэтага часу ня вырашыў гэтага пытаньня.

У тую зіму птушкі кожны дзень дзяўблі зярняты з маёй кармушкі, і так прывыклі да людзей, што нават не баяліся, калі хто-небудзь блізка падыходзіў да іх.

Яўг. Зомэрфэльд.

## КООПЭРАТЫЎ У ШКОЛЕ.

Да гэтага часу нашым вучням, каб купіць сшытак альбо аловак, прыходзілася бегаць аж у самае мястэчка ў кнігарню.

І вось перад вучнямі паўстала пытаньне: можа організаваць у школе сваю коопэрацыю?

Абгаварылі на агульным сходзе. Парашылі організаваць. Выбралі савет коопэрацыі. З вучняў сабралі па 50 кап. Дапамагла нам грашыма і школьная рада.

На ўсе сабраныя сродкі было закуплена сшыткаў, кніг, алоўкаў і інш. патрэбных для вучняў тавараў.

Цяпер у коопэрацыі ёсьць тавараў на 300—320 руб.

Наша коопэрацыя бярэ кнігі ў мясцовай кнігарні, ад гэтага мае 4 проц. скідкі.

Таксама праз нашу школьную коопэрацыю шмат было распаўсюджана кніжак па вёсках. Усіх пайшчыкаў нашай коопэрацыі каля 120—150 чал.

Коопэрацыйны савет не забывае і аб дапамозе бяднейшым вучням. Ім раздаюцца дармова падручнікі, адзежа і абутак і інш. Цяпер ужо вучні не бягуць у мястэчка за сшыткам, а яго можна купіць або ўзяць у крэдыт у сваёй коопэрацыі.



Вярбовіч М.

(Зембін, 7-годка).

## СТАНЕМ ГАСПАДАРАМІ СВАЕЙ ОРГАНІЗАЦЫІ

### Райбюро пра нас нічога ня ведае.

Зусім сваечасова ўзьняла наша часопісь пытаньне аб ненармальных узаемаадносінах паміж райбюро Ю.П., з аднаго боку, і піонэр-атрадамі—з другога. У нашых піонэраў ствараецца ўражаньне, што райбюро вырашае якія хочаш пытаньні, толькі ня тыя, што непасрэдна зьвязаны з штодзённым жыцьцём і працай атраду.

Вось прыклад: за ўвесь час работы нашага атраду, я ня памятаю ніводнага выпадку, каб да нас зайшоў прадстаўнік райбюро, пацікавіўся нашай працай, дапамог зьнішчыць недахопы ў нашай працы. А гэтых недахопаў шмат: беларусізацыя ў атрадзе кульгае, дысцыпліна вымушае жадаць лепшага, старэйшыя піонэры „бузяць“...

У мінулым годзе райбюро праводзіла абсьледваньне нашага атраду, аб гэтым абсьледваньні мы даведаліся зусім выпадкова. Абсьледваньне праводзілася так: павадыра выклікалі на пасяджэньне райбюро, дзе ён і зрабіў справаздачу аб становішчы атраду; нас, піонэраў, на гэта пасяджэньне не заклікалі, прадстаўнікі райбюро ў атрад ня прышлі ў час абсьледваньня і г. д.

С. Жабровіч.

Атрад пры заводзе „Пролетары“.

### Зрабіць райбюро выбарным органам.

Дзеля таго, каб наблізіць райбюро да піонэраў, зрабіць піонэраў не на словах, а на справе **гаспадарамі сваёй організацыі**, патрэбна, на мой погляд, зрабіць райбюро выбарным органам, накшталт райкому ЛКСМБ.

Практычна я ўяўляю сабе гэтую справу вось як: у кожным раёне склікаецца ў пэўныя тэрміны райконфэрэнцыя піонэраў, на якую кожны атрад пасылае сваіх дэлегатаў. Апошнія заслухоўваюць даклад райбюро, выяўляюць дасягненьні і недахопы організацыі, вызначаюць яе далейшыя задачы і, нарэшце, самі выбіраюць новы склад райбюро. У райбюро належыць увесьці ня толькі павадыроў атрадаў, але і піонэраў, якія вызначаюцца сваёй актыўнай працай у атрадзе, карыстаюцца аўтарытэтам.

Выбранае такім чынам райбюро ўжо ня будзе адарваным ад піонэр-організацыі. Кандыдатуру старшыні райбюро павінен, зразумела, высоўваць райком ЛКСМБ.

Піонэр З. Ліўшыц.

### Больш увагі піонэрскаму друку.

Тав. Я. Н. правільна адзначае ў сваім артыкуле той факт, што бюро Ю.П. і піонэр-працаўнікі наогул аддаюць зусім мала ўвагі піонэрскаму друку і лічаць, што яго павінны чытаць выключна дзеці.

Возьмем конкрэтна нашу часопісь „Беларускі Піонэр“. Ці часта сустракаем мы ў ёй артыкулы і допісы павадыроў, піонэр-працаўнікоў?

Зусім рэдка-рэдка які павадыр лічыць для сябе патрэбным чытаць часопісь, ня гледзячы на тое, што знайшоў-бы ў ёй для сябе шмат чаго цікавага.

Вось яшчэ факт, які малюе адносіны павадыроў да нашага друку. У нашым атрадзе да самага апошняга часу павадыром ня ўзьнімалася пытаньне аб выпісцы „Бел. Піонэра“, пакуль аб гэтым не загаварыла наша рэдколегія, якая па сваёй ініцыятыве дабілася выпіскі па аднаму экзэмпляру на зьвяно. Аб чым-жа думаў увесь час наш павадыр? Ці-ж не яго абавязак паклапаціцца аб выпісцы часопісі?

Я. Чымбаевіч.

Атрад чыгуначнікаў, г. Менск.

### Мае прапановы.

Дзеля таго, каб узмацніць сувязь паміж атрадамі і бюро Ю.П., каб бюро лепш кіравала працаю атрадаў, я прапаную зрабіць наступнае:

1) У склад бюро Ю.П. пры райкомах і акругкомах ЛКСМБ уводзіць піонэраў-актывістых, наогул вылучаць піонэраў на кіраўнічую працу, больш давяраць піонэрам.

2) Практыкаваць справаздачы райбюро Ю. П. на сходах атрадаў, наладжваць абмен думкамі піонэраў пасьля гэтых справаздач.

3) Рэгулярна склікаць пры райбюро нарады павадыроў зьвеньняў, дзе ставіць на абгаварэньне розныя пытаньні, зьвязаныя з піонэр-працай.

4) У кожным атрадзе вылучыць піонэра—упаўнаважанага для сталай сувязі з райбюро, які-б наведваў райбюро, атрымліваў заданьні для атраду, інфармаваў старшыню райбюро аб усіх атрадных навінах.

Ня трэба думаць, што ўсё гэта толькі ўскладніць працу павадыра, створыць лішняе кіраўніцтва. Павадыру, наадварот, будзе лягчэй працаваць, ён зможа абапірацца на працаздольны піонэрскі актыў.

Ул. Глінскі.

Атрад пры заводзе „Пролетары“.

# Дзень нашых матак і сясьцёр



*Працуюць і слухаюць радыё.*

З далёкай Японіі, з вузкай гарыстай выспы, берагі якой цалуюцца з хвалямі Ціхага акіяну і Японскага мора, прышоў гэты ліст. З краіны самураеў [1]) і хейміна [2]), дзе дымяцца сотні і тысячы тэкстыльных фабрык і галодныя натоўпы беспрацоўных вандруюць з гораду ў горад,—прышла да нас гэтая вестка. Вось што піша японская работніца—тэкстыльшчыца з Осака:

„Слухайце, таварышы! Увесь дзень мы працуем, праліваючы сьлёзы, ноччу мы не знаходзім адпачынку ў трывожным і цяжкім сьне... Сіл чалавечых няма, каб перанесьці тое, што мы пераносім. Слухайце, таварышы! А палове пятай раніцы нас груба будзіць наглядач, па званку 5-цігадзіннага колакала мы ідзем у фабрычную сталоўку. Дрэнны танны рыс, якога мы ніколі ня елі дома,—вось нашае сьнеданьне. Мы ня можам есьці гэтае стравы, ад яе робіцца млосна, але есьці трэба, каб не памерці з голаду. І за гэтае харчаваньне мы павінны плаціць вельмі дорага. Калі-ж мы спозьнімся на сьнеданьне, дык наглядач б'е нас... Увесь дзень мы працуем, абліваючыся потам і за гэтую работу атрымліваем мізэрныя капейкі... Нам не даюць часу нават, каб выпіць шклянку гарачай вады. Сталоўка знаходзіцца вельмі далёка, і таму работніцы ў начной зьмене павінны есьці тут-жа, каля брудных машын... Слухайце, таварышы! Калі хто-небудзь з нас захварэе, ёй не дазваляюць ляжаць, а прымушаюць працаваць, як здаровую, і нават болей, таму што са сьмерцю работніцы кампанія губіць аванс, што выдала ей... Калі хворая ня ў сілах падняцца, прыходзіць наглядач і сілком сьцягвае яе з ложка. Безьліч работніц паміра̀е проста на фабрыцы, каля машын... Слухайце, таварышы!..“

— Слухайце, таварышы!—крычыць многа, многа такіх-жа лістоў з Усходу і Захаду, з Польшчы і Аўстраліі, з Гішпаніі і Балканаў. Гэта пішуць работніцы і сялянкі, маткі рахітычных, галодных дзяцей, тыя работніцы і сялянкі, што церпяць у капіталістычных краінах падвойную—і эканамічную, і сямейную—няволю.

[1]) Паны.

[2]) Народ.

Доўгія дзесяткі год, побач з агульнай гэроічнай барацьбой пролетарыяту, ідзе змаганьне жанчыны-работніцы за свае правы.

Дваццаць адзін год таму назад у горадзе Штутгарце адбылася 1-ая міжнародная конфэрэнцыя жанчынсоцыялістак. Гэтая конфэрэнцыя зьвярнулася да пролетарак усяго сьвету з заклікам павесьці рашучую барацьбу за ўсеагульнае выбарчае права разам з усёй рабочай клясай. Тады гэта было баявое рэволюцыйнае патрабаваньне, бо рабочыя і—тым больш—работніцы не дапускаліся да ўдзелу ў заканадаўчай працы. А ўжо праз два гады, 28-га лютага 1909 году, работніцы Паўночнай Амэрыкі правялі многалюдныя дэмонстрацыі і мітынгі, на якіх сьмела і рашуча патрабавалі політычных правоў для пролетарак. Гэта і быў, уласна кажучы, першы „жаночы дзень“. І ў наступным, 1910 годзе, 2-ая міжнародная конфэрэнцыя соцыялістак у горадзе Копэнгагене прыняла прапанову т. Клары Цэткін штогодна 19-га сакавіка (потым гэты дзень перанесены на 8-е сакавіка) праводзіць „Дзень работніцы“ ў міжнародным маштабе.

Так нарадзілася вялікая інтэрнацыянальная сьвята нашых матак і сясьцёр.

Праз колькі год пасьля конгрэсу адбыліся падзеі, якія зусім зьмянілі твар зямлі. На абшарах былое царскае імпэрыі адбылася найвялікшая ў гісторыі чалавецтва рэволюцыя. Кастрычнікавая рэволюцыя дала працоўнай жанчыне ўсе правы і ўсе магчымасьці для прыгожага, вольнага, сьвядомага жыцьця.

Юныя піонэры ведаюць пра дэлегацкія сходы, дзе вучацца сотні тысяч работніц і сялянак нашай краіны; ведаюць пра яслі, пра кансультацыі, пра жаночыя газэты і часопісі, пра жаночыя зьезды, чулі аб жанчынах-судзьдзях, жанчынах-інжынэрах, самі бачылі на вуліцах Менску жанчынміліцыянэрак.

І калі ў Японіі прымушаюць работніц есьці гнілы рыс і хворых працаваць ля варштату, калі ў Польшчы цяжарных работніц праганяюць з працы,—у Савецкім Саюзе пралетаркі выбіраюцца на адказныя дзяржаўныя паса-



*Дзяўчынка-мэксіканка. Ад працы яна стала па выгляду старой жанчынай.*



*Для нашых матак ёсьць магчымасьць слухаць у клюбах даклады...*

ды. Вось на чале Гомельскага гарадзкога савету стаіць т. Прусакова, дачка камяншчыка. Доўгія гады т. Прусакова працавала на ф-цы запалак. А віцебская штопальшчыца, т. Скварцова, 10 год працавала каля варштату і цяпер зьяўляецца намесьніцай дырэктара акулярнай фабрыкі.

Нават на ўсходніх акраінах нашага Саюзу, там, дзе пануюць цёмныя законы шарыата і адата[1]), пачынаючы з далёкай Бурата-Манголіі, рэспублік Сярэдняй Азіі, Казакстану, Татарыі, Дагестану і другіх нацыянальных вобласьцяй і рэспублік,— нават там вызваленыя жанчыны маюць ужо свае школы, клюбы і працоўныя арцелі. Яны здымаюць адна за другой праклятую чорную чадру. У сталіцы Казакстану—Кзыл-Арда—намесьнікам Наркома социяльнай забясьпекі назначана казачка, т. Арыкава. Жыхарка горнага Дагестану, Нурганат-Гаджыева, быўшая батрачка, зараз—член Дагестанскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і мае вялічэзны ўплыў сярод насельніцтва.

У нас на Беларсуі з кожным годам расьце армія актывістак з а:ярodзьдзя работніц і сялянак. У глухіх вёсках П лесься кабеты запісваюцца ў лікбезы, ладзяць свае сходы. Стваряюцца першыя ткацкія арцелі беларускіх сялянак (такая арцель добра працуе ў вёсцы Лошніца на Барысаўшчыне). І вось як піша аб усім гэтым сялянка вёскі Сапожкава, Кармянскага раёну, Кацярына Драбышэўская:

„Давай дарогу бабе вольнай,—
Цяпер і мне тут месца ёсьць.
Даволі мучылась бяздольнай,
Было пакутнае жыцьцё.

Злажылась нават нябыліца
Аб тым як мы цярпелі век:
Што быццам курыца—ня птушка,
А баба—дык не чалавек...

і гаварылі: доўгі волас,
Але кароткі бабскі вум...
І галашу, бывала, уголас
Ад чорных дзён, ад чорных дум.

Цяпер сабе сама я пані:
Хаджу ў чытальню, ў клюб хаджу.
Глуміцца нада мной ня стане
Ніхто,—я грамаце вучусь“.

Толькі больш у нашай рэспубліцы покуль тых, што яшчэ ня ходзяць у клюб і ня вучацца грамаце. Сотні тысяч сялянак жывуць у цемры і забабонах. І аб гэтым юныя піонэры павінны добра памятаць у Міжнародны Жаночы Дзень. Яны павінны таксама больш, чым раней, цікавіцца жыцьцём і барацьбой работніц і сялянак ва ўсіх кутках зямное кулі, каб умець гэта расказаць сваім маткам і сёстрам.

**Міхась.**

[1]) Сямейнае і маемаснае права і рэлігійны закон, паводле якіх большасьць жанчын знаходзіцца ў поўным паднявольлі ў мужа і яго старэйшых жонак.





*„КАРАБЛІ-ЗДАНІ“.*

*Чытай нарыс на 3-й стар. вокладкі.*

# ГАРАДЗКАЯ РАНІЦА

*Верш АНДРЭЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА Малюнкі ЗДАНОЎСКАЙ*




Сёньня сонца ўстала рана,
Глянула на горад,—
Сьпіць усё. Пазачыняны
крамы, калідоры.
Вакенцы ў камяніцах.
Крамы пад замкамі.
Каля плошчы сьпіць ізвозчык
З доўгімі вусамі.
Вартаўнік коопэратыву,
Седзячы на скрынцы,
Сьцеражэ тавар рупліва
Ад ліхіх злачынцаў.
І гадзіньніку ня сьпіцца
На званіцы-вежы,
Залаціцца камяніца
Сонечнай мярэжай.
Вышаў дворнік неўзабаве,
Глянуў: сонца сьвеціць.
Стаў на брук, мятлу паправіў,
Вымятае сьмецьце.
З поўгадзіны ня мінула,
І гудок фабрычны
Моцна так, зазыўным гулам,
На работу кліча.
Горад радасна ўздыхае,
Як пасьля прымусу.




Строем выбеглі трамваі,
Ўсьлед і аўтабусы.
Адмыкаюць крамы, вокны,
Бразгаюць засовы.
На страху пагрэцца скокнуў
Кот белагаловы.
І ня позна, толькі восем,
А ўжо шумна гэтак,—
Бач, газэтчыкі разносяць
Сьвежыя газэты.
Папяросьнік з хаты вышаў
З скрынкаю сваею,
Заглядзеўся, як афішы
Ля тэатру клеюць.
Завіхаюцца кабеты
У пякарнях, крамках,
Каб хутчэй купіць для дзетак
Сьвежых абаранкаў.
Пачынаецца сьпякота,
Людзі ўсё-ж працуюць!
Спрытна хлопчык чысьціць боты
Дробнаму буржую.
Аж да вечара ад ранку



Цацкі-забаўлянкі
Маладая кітаянка
Прадае на ганку.
Вунь манцёры-слупалазы
Правяць электрычнасьць,—
Гул на вуліцы адразу
Стаў, як навальнічны.
Ёсьць няшчасьці, і наўперад
Ад такіх выпадкаў
Рупна міліцыянэры
Сочаць за парадкам.
Пыл на вуліцы бязьмеры.
Сонца прыпякае.
Дзеці ў трусіках на скверы
Абручы качаюць.
А над горадам канатам
Дым віецца чорны,—
Знача новы дзень пачаты
І ў фабрычных горнах.
Тут рабочыя працуюць
І старанна гэтак:
Долю лепшую будуюць
Для маленькіх дзетак.

Вожык

ГУМАРЫСТЫЧНАЯ ГАЗЭТА ЮНЫХ ПІОНЭРАЎ
№ 4

# ЛІСТЫ-ПЯКУЧКІ ВОЖЫКА-КАЛЮЧКІ

— Добры дзень, сябры!—бадзёра я вас клічу (вы ведаеце, што я маю такі звычай), каб вы часопісь чыталі і мае лісты праглядалі.

Ну, дык вось. Хутка мы будзем сустракаць сьвята 8-га сакавіка. А загэтым усе лісткі мае дазваньня будуць прысьвечаны жаночаму пытаньню. Гэта сьвята сустракаць я буду радасна надта.

Ну, дык вось. У нашых атрадах ёсьць хлапцы і дзяўчаты. Здаецца, яно так і павінна быць, і нікога гэта не павінна дзівіць. Ды нават наадварот: нарэшце-ж дабіўся наш народ, што жанчыны і мужчыны аднолькавы ў сваіх правох! Але сябры—эхе! і ох!

Гэта мы ў агульным маштабе гаворым. Але ў іншым атрадзе (на вялікае гора!) хлопцы, па няведамай прычыне, лічаць сябе ў вельмі высокім чыне: яны важней за дзяўчат утрое! А дзяўчаты —гэта так, нешта такое, што не заслугоўвае ўвагі належнай, і што ўсе парадкі не ад дзяўчат залежаць, а ад іх, рызынкантаў гэткіх, хлапцоў, у якіх фанабэрыі і рызыкі бяз краю і канцоў.

Удасца хлапец іншы буяны, ходзіць у форме хулігана, а як ўбачыць дзяўчат дзе-небудзь, дык нос задзірае аж да неба:

„Вы бо—стварэньне пустое, а вось я,—дык унь чаго стою!“

І гэтакія „шуткі“—на нярадасьць!—існуюць і ў піонэрскіх атрадах.

Вось дык парадкі! дрэнныя парадкі! гэта старога быту астаткі. У старой яшчэ прыказцы кажуць, што „курыца ня птушка, баба не чалавек“—з гэтай прыказкай мы пражылі не адзін век. Але цяпер у нашы дні, калі перад намі соцыялізму агні, *гаварыць такія рэчы і сорамна і недарэчна.*

Піонэры, напэўна, многа раз бачылі і самі, як бацька кепска адносіцца к маме, як слоў агідных сыпаў ён цэлую кучу. Я думаю, што вам станавілася крыўдна і балюча. Шмат каму, напэўна, хацелася сказаць, што бацька матку павінен паважаць. А калі мы добра падумаем над гэтым, то вельмі лёгка прыкмецім, што бацька да маткі адносіцца такім манерам затым, што ня быў ніколі піонэрам, што змалку прывыкаў драць нос перад дзяўчатамі, лічыў сябе хлопцам зухаватым.

Але яшчэ і ня так бывае. Я, напрыклад, часьцяком прыкмячаю ў школе такія нядобрыя выпадкі. У адным баку сядзяць хлапцы, а ў другім—дзяўчаткі. І ўсё па гэтай-жа самай прычыне, што ў іншых мясцох і дагэтуль ня лічыцца чалавекам дзяўчына.

— Вы—бабы!—заяўляюць хлопцы з жарам, як быццам лічачы за кару сядзець побач з дзяўчынай.

А гэтага быць не павінна. Гэта не па Ленінскаму наказу.

Дык памятайце-ж, што толькі разам, бяз ніякага грубога разьдзяленьня, мы даб'емся поўнага вызваленьня.

Цяпер вось што яшчэ трэба сказаць, што ў іншых атрадах прыходзілася прыкмячаць гэта, што: хлопцы чаму-небудзь будаўнічаму навучаюцца, а дзяўчаты толькі шыцьцём займаюцца.



*Вы бо—стварэньне пустое.*

Гэта зноў такі, па разуменьню майму, зусім ні к чаму. Няўжо-ж у тым толькі жаночае жыцьцё, што знай кухарства і шыцьцё!?

Які гэта будзе мужчына, калі ён, без дапамогі жанчыны, не зашые порткаў, а на падраную дзірку будзе лупаць вачамі—падумайце самі!? Якая з піонэркі будзе дзяўчына, калі яна будзе баяцца сталярскага начыньня—глупства ня йначай!



*Бацька да маткі адносіцца такім манерам затым, што ня быў піонэрам.*

А ў нашай краіне з самай калыбелі дзіцячай трэба выкоўваць сябе моцным, здаровым, да ўсякіх цяжкасьцяй быць гатовым. Хай хлопцы навучаца шыць, дзяўчаты навучацца страляць. Мала чаго на шляху можа паўстаць, а—самае важнае і самое галоўнае—трэба ведаць, што ўсе мы людзі роўныя. У нас ува ўсіх адна мэта і імкненьне—выканаць наказы Леніна. А калі гэта так павінна быць між намі, дык якая розьніца паміж хлопцамі і дзяўкамі? У піонэрскай сям'і такіх дзяленьняў ня трэба!

Няхай-жа жывуць адзіныя піонэрскія атрады, і гэтаму ўсе будуць рады.

З прывітаньнем:

**Ваш Вожык**

# БАРАЦЬБА ЗА ЖЫЦЬЦЁ

*Апав. Б. ЛУНІНА* *Мал. ТЫЧЫНЫ*

*(Абразок з далёкай мінуўшчыны)*

Пасьля апошняе лекцыі ў клясу прышоў выкладчык грамадазнаўства, Аляксандар Міхайлавіч.

— Ну, дзеці,—сказаў ён,—заўтра мы выяжджаем на экскурсію. Ёсьць прапанова паехаць у станіцу Ільскую, Кубанскае акругі. Там, на беразе рэчкі Іль, вучоныя праводзяць раскопкі стаянкі—месца пражываньня першабытнага чалавека, які жыў шмат тысяч год таму назад.

Мы з радасьцю згадзіліся, і на наступны дзень накіраваліся ў падарожжа.

На месцы раскопак стары профэсар-археолёг расказаў нам шмат цікавага з гісторыі чалавека, што жыў тут шмат гадоў таму назад, у дагістарычны час.

Вось што мы пачулі:

... Больш месяца прайшло ўжо з таго часу, калі невялічкае племя, якое складалася з некалькіх сот чалавек, заснавалася жыць на новым месцы.

Пасьля доўгіх вандровак, па загаду старшыні, спыніліся ў даліне, на беразе рэчкі. Тут, на паўночным, зацішным ад ветру і сонечным схіле даліны, заснавалі яны свой табар да таго часу, пакуль якія-небудзь прычыны ня прымусяць перабрацца ў другое месца.

У мясцовасьцях новай стаянкі паляўнічыя таго племя знайшлі шмат сьлядоў розных жывёл. Паляваньнем на зьвера і жыло, галоўным чынам, гэта племя.

Сапраўды, першыя дні жыцьця на новым месцы былі днямі ўдачы і дастатку. Маладыя паляўнічыя асачылі і забілі трох пячэрных медзьвядзёў; кожнае мядзьведзева тулава было амаль у два разы большае за чалавека.

Апрача таго, у пастку трапіла некалькі маладых гіен, а на чацьвёрты дзень удалося забіць дзікага бычка. Заставаліся яшчэ запасы ад ранейшага паляваньня.

Дзеці забаўляліся цэлымі днямі, мужчыны майстравалі з каменьняў аружжа, жанчыны гатавалі яду, сушылі мяса забітых жывёл. Ува ўсіх была вопратка са скур жывёл; рукі і ногі вопраткай не закрываліся.

Калі пачынала зьмяркацца, племя зьбіралася групамі вакол вялікіх куч попелу, на якім блішчэў часамі чырвоны агонь, і ўсе ўладжваліся на начлег.

Над вогнішчам узьнімалі на чатырох драўляных слупох простую плеценую павець, якая служыла для іх страхою.

Самыя здаровыя мужчыны, якіх вылучалі на варту, цэлую ноч хадзілі вакол стаянкі, моцна сьціскаючы ў руках драўляныя тапарышчы каменных сякер. Сьвежы вецер кудлачыў іх калматыя доўгія валасы і сваім чулым слухам яны пільна лавілі кожны гук ночнае цішыні—шалясьценьне расьлін, узьлёт казюлек, рогат гіены, клёкат стэпавага арла.

Але вось прышлі для племя чорныя дні. Маўклівасьць і цішыня панавалі ў стаянцы.

Ня чутно дзіцячага крыку, замерла забава. Пакорнымі групамі зьбіраюцца жанчыны і дзеці вакол агнёў і, зьбіўшыся ў кучкі, сумнымі вачыма паглядалі ў даль.

У жыцьці племя такія няўдачныя для паляваньня дні надыходзілі часта.

Дзякуючы законам прыроды, чароды жывёлаў вельмі часта мянялі сваё месца, шукаючы новых пасьвішчаў, новых прытулкаў.

У такія моманты племя жывілася, зазвычай, старымі запасамі сушанага мяса, а ў хуткім часе новыя чароды жывёл і ўдачнае паляваньне зноў устанаўлялі нармальнае жыцьцё, папаўнялі запасы.

Цяпер наступіў адзін з „галодных“ момантаў. Усе паляўнічыя племя, маладыя і старыя, разышліся шукаць здабычы. Пашлі ў ход старыя прыпасы. Але ніхто яшчэ ня думаў, што над племям навісьне грозная і цяжкая бяда. А яна прышла: гэта быў голад.

Спачатку думалі, што ня сёньня—дык заўтра вернуцца паляўнічыя са здабычай, і ўсё пойдзе па-стараму. Але бег дзень за днём, а паляўнічыя заўсёды прыходзілі з пустымі рукамі.

Сьпешна разьдзіралі дробныя жывёлінкі, якія ім пападаліся, і гэтым толькі раздражнівалі свае жываты.

Запасы хутка вычарпаліся. Зьелі апошнія рэшткі мяса, а становішча ўсё не паляпшалася.

Днём і ноччу хадзілі паляўнічыя, заходзілі за дзесяткі вёрст, лазілі па ўсіх кутках.

Усё было бескарысным. З жалем і надзеяй глядзелі дзеці на прыходзячых паляўнічых, і, бачачы іх журботныя і замораныя абліччы і пустыя рукі, заліваліся моцным плачам. Жанчыны прабавалі бадзяцца вакол стаянкі, лавілі казявак, рвалі траву, якую можна зьесьці, але ўсё гэта не давала аніякага палягчэньня.

Іншы раз, вечарамі, поўнае роспачы, ішло племя да старэйшых людзей, якіх лічыла мудрымі і знахарамі, задавала ім пытаньне, патрабавала, з сьлязамі на вачох прасіла; але яны безнадзейна разводзілі рукамі, ківалі галовамі. Змораныя, галодныя людзі зноў цягнуліся да сваіх вогнішч.

На восьмы дзень сьмерць заглянула ў стаянку. Першымі памерлі дзеці—дзьве дзяўчынкі і хлопчык. За імі памерла некалькі бабулек.

З таго часу ўміралі кожны дзень. На дванаццаты дзень ашалелыя



*Цэлую ноч хадзілі, моцна сьціскаючы тапарышчы.*

людзі пачалі кідацца на мерцьвякоў. Худыя трупы зьядаліся раптоўна.

Шэрагі паляўнічых радзелі. Шмат хто ня меў ужо сілы, каб ісьці на паляваньне, а цэлымі днямі сядзелі яны альбо ляжалі на зямлі, гледзячы прыплюшчанымі вачмі ў яснае неба.

На зьмену дню прыходзіла ноч і зноў дзень.

Так прышла раніца, чатырнаццатая з таго дня, калі былі зьедзены апошнія прыпасы.

Гэта быў трэці дзень адсутнічаньня лепшых паляўнічых племя—старога Поо і маладых Мау і Мгі. Тры разы яны вярталіся бяз нічога і вось ужо чацьвёрты раз пашлі на пошукі здабычы.

Раніца прышла хмурная, цёмная. Усю ноч цярушыў дождж, па небе плылі шэрыя хмары і імгла яшчэ болей уціскала галодных і хворых людзей...

Раптоўна зычны крык пачуўся ў раньняй цішыне. Па беразе рэчкі, спытакаючыся, бег пад стаянку малады Мау. Яго раптоўна акружылі людзі, для якіх крык Мау быў крыкам апошняй надзеі.

І сапраўды—Мау прынёс радасныя весткі—„Мамант! Мамант!..“—толькі і мог выгаварыць, цяжка дыхаючы, малады паляўнічы.

„Мамант“, гэта—слова ажывіла ўсё племя, у гэтым слове быў ратунак.

Не задаючы лішніх пытаньняў, усе, хто яшчэ стаяў на нагах—мужчыны, жанчыны і нават дзеці—кінуліся за зброяй.

Праз некалькі хвілін, з жывіцельнаю надзеяю, натаўп людзей, пад кіраўніцтвам Мау, быў ужо за межамі стаянкі.

Праз дзьве гадзіны хады, праўдзівей—бегу, натаўп дасягнуў мэты. Тут, ля павароту рэчкі, на ўзгорку, Мау падаў знак спыніцца і заціхнуць. Натаўп замёр. Беглі хвіліны нецярплівага чаканьня.

Раптам нізкі, глухі і пануры рык прарэзаў паветра. Людзі здрыгануліся. Гэта быў рык маманта, самай дужай жывёлы ў сьвеце.

У той час мамант быў непераможным. Ад яго ўцякалі ня толькі людзі, але нават такія волаты, як пячэрныя мядзьведзі.

Праз некалькі хвілін мамант паказаўся з процілежнага боку. Ён ішоў пад рэчку, на вадапой. Выгляд яго быў грозны, і можна было заўважыць, што мамант нечым раздражнены. Гэта быў стары, валасаты самец, які напэўна адбіўся ад чарады.

Цела яго было велічынёю з цэлы ўзгорак, ногі—як тоўстыя дрэвы, галава была падобнай на вялікі, вялікі камень, кароткія вушы, як скуры, шлэпаліся з боку галавы, загнутыя ўверх клыкі таксама па некалькі мэтраў удаўжкі. Хобат, з тоўстаю шэраю скурай, выкручваўся, як вялікая вужака. Бесьперастанку трасучы паветра дзікім рыкам, ён падышоў да вады.

На далёкай адлегласьці ад маманта амаль паўзком падкрадаліся Поо і Мгі. Спрактыкаванае вока Мау адразу заўважыла сваіх.

Мамант падышоў да вады. Сотні вачэй сачылі за яго рухам. Трэба было падпусьціць маманта бліжэй і разам з гэтым настрашыць яго, хутчэй, чым ён зможа напіцца вады і сагнаць смагу.



*Ён павярнуўся некалькі раз, і кожны крок яго ў натаўпе людзей—быў крокам крыві і жудасьці.*

Да вады маманту засталося некалькі крокаў.

— „А-а-а-а!!!“—пачуўся крык старога Ноо. Яму адказаў Мау. У адзін міг увесь натаўп людзей быў на нагах.

Дзіка крычучы, падскакваючы, размахваючы аружжам, беглі дзесяткі людзей, акружаючы маманта з трох бакоў.

Трэба было прымусіць бегчы маманта ўніз па рэчцы, дзе, прыблізна, на другой вярсьце, недалёка ад берага, паміж дрэвамі, была з першых дзён выкапана яма з драўляным, загостраным калом пасярэдзіне. У гэту яму, прыкрытую зьверху гальлём, трэба было загнаць маманта.

Ён падняў галаву, здрыгануў вушамі, закруціў хвастом і, падкінуўшы ўверх хобат, з рыкам пашоў наперад, на людзей. Перадавыя паляўнічыя шпурнулі ў маманта стрэлы з лукаў. Глыбока залезшы ў скуру маманта, гэтыя стрэлы ўчынілі моцную боль, але ня прымусілі яго павярнуцца ў патрэбны бок.

Ні адзін чалавек ні адступіў назад. Яшчэ не разумеючы, як відаць, усяе небясьпекі, мамант пасоўваўся мерным, цяжкім крокам.

Новы ўзрыў крыку ўстрасянуў паляўнічых. Па ўзмаху рукі Мау ў маманта паляцелі сотні каменьняў.

Паляўнічыя стралялі з лукаў, шпурлялі коп'і, жанчыны махалі скурамі альбо кідалі каменьні, якія пападаліся пад рукі.

Крык, сьвіст, гігіканьне, грукат падаючых каменьняў, рык маманта,—усё зьлілося у адзін дзікі вэрхал.

Не даходзячы некалькі дзесяткаў крокаў, мамант раптам паскорыў свой бег. Праз некалькі хвілін вагромністая жывёла ўрэзалася ў натаўп людзей Маленькія, шустрыя вочкі маманта наліліся крывёю і гарэлі злосьцю.

Ён павярнуўся некалькі раз, і кожны крок яго ў натаўпе людзей—быў крокам крыві і жудасьці. Яго вялізарныя лапы бязьлітасна душылі людзей. Хлюпаньне крыві і трэск людзкіх костак заглушалі крыкі тых, хто пападаўся яму пад ногі.

Час-ад-часу разьлютаваны мамант хапаў хобатам каго-небудзь з натаўпу, круціў яго ў паветры і адкідаў далёка наперад разломанае цела. Вакол маманта ўтварылася мокрае балота з костак, крыві. Калі мамант паднімецца ўверх, да лесу—тады ў яму ён не пападзе. А з мамантам уцячэ апошняя надзея на ратунак ад сьмерці. І зьбянтэжаныя людзі кідаліся пад ногі маманту, крычалі, білі, рэзалі...

З кожным разам зьмяншаўся лік паляўнічых. Стары Поо,

які падахвочваў усіх сваёю энэргіяй і сьмеласьцю, не пасьпеў выкруціцца ў час і толькі крывавая пляма засталася ад лепшага паляўнічага з племені.

Крок за крокам паднімаўся на ўзгорку мамант, вакол яго кішэлі няшчасныя, потныя, цяжка дыхаючыя, у крыві і брудзе людзі.

Сотні стрэл тырчэла ў целе маманта. Людзі з гарачкі падскаквалі, хваталі яго за валасы, павісалі на іх, білі яго па нагах доўбнямі, калолі крамнёвымі нажамі.

Прабегшы некалькі сажняў, ад моцнай болі, мамант упаў на пярэднія калені, раздушыўшы пад сабою з дзесятак чалавек. Ён хобатам схапіў адну жанчыну і на ёй спаганяў усю злосьць, пакуль ад жанчыны не засталося адных касьцей.

Адзнака слабасьці маманта абнадзеіла людзей. Абступіўшы маманта цесным колам, людзі паранейшаму закідалі яго каменьнямі, калолі і рэзалі.

Чалавек перамог.

Падняўшыся на ногі, мамант павярнуўся ўніз і пашоў у бок, па пуцінцы, якая вяла да ямы.

Крык болі і роспачы зьмяніўся крыкам радасьці.

Праз некалькі гадзін людзі, якія сабраліся вакол ямы, хрыпуча і цяжка дыхаючы, з прыемнасьцю глядзелі ўніз...

У яме, праколаты калом, паміраў мамант. Час-ад-часу ён паднімаў сваю слабеючую галаву з жорсткаю шэра-жоўтаю грываю, калываў ёю і вушы маманта слаба трапяталіся, як вялізныя кажаны.

Праз колькі хвілін жыцьцё пакінула маманта. Людзі з радасьцю сьмела маглі спусьціцца ў яму. Падлазячы пад цёплы жывот і пад ногі маманта, яны пачалі рэзаць цела жывёлы вялікімі крамнёвымі нажамі, сьпяшаючыся есьці тут-жа, на месцы, цёплае мяса...

Першыя кавалкі мяса былі занесены на месца стаянкі ў гэты-ж вечар. Тут таксама сырым елі мяса, з прагнасьцю разьдзіраючы яго на кавалкі.

Тры дні ўсе мужчыны і жанчыны племя рэзалі вялізарнае цела маманта, выцягвалі з ямы і дзялілі на невялікія часткі.

Тут-жа разьбіралі косьці маманта, а пасьля іх шчапалі і смакталі з іх мазгі—сваю любімую яду.

Ажыўшыя і павясялеўшыя дзеці скакалі вакол працуючых, сьпявалі, гулялі, памагалі заносіць у стаянку косьці і мяса, б'ючыся часам між сабою за дробныя костачкі, якія ім шпурлялі старэйшыя...

Сьветлыя дні зноў заглянулі ў стаянку: людзі мелі што есьці, а гэта было самым галоўным.

Дзесяткамі ахвяр заплаціў чалавек за гэта мяса, за права на жыцьцё. Так з дню на дзень, у бязупыннай барацьбе за жыцьцё разьвіваўся чалавек.

Тысячы год, вялізарныя заваёвы навукі і тэхнікі, адлучаюць нас ад гэтага чалавека, які сваёю працаю, сваімі моцнымі рукамі і воляй заваяваў нам права і магчымасьць на лепшую будучыню.

---

Стары профэсар змоўк... Некалькі хвілін панавала цішыня. Захопленыя ўражаньнем, мы маўкліва стаялі і ў нашым уяўленьні мітусіліся вобразы з мінулага жыцьця чалавека.



---

# ГУЛЬНЯ НА ЎВАЖЛІВАСЬЦЬ

У гэтую гульню могуць гуляць і адзін і некалькі чалавек.

Гуляюць так: удзельнікам прапануецца ўважліва глядзець на малюнак роўна адну хвіліну, пасьля гэтага малюнак закрываецца рукою і ўдзельнікі гульні павінны адказаць на некалькі пытаньняў, якія зьмешчаны ніжэй. Хто адкажа на большы лік пытаньняў, той і бярэ верх у гульні.

Па гэтаму малюнку трэба адказаць на наступныя пытаньні.

1. Колькі чалавек намалявана




на гэтым малюнку. 2. Што кожны з людзей робіць. 3. Які надпіс ля студні. 4. Колькі бярвеньняў ляжыць ля дрэва. 5. Ці не заўважыў ты на небе самалёту. 6. У які бок дзьме вецер і як ты гэта вызначыў. 7. Колькі чаўноў на рацэ. 8. Ці не заўважыў ты шпакоўню. 9. Колькі яблыкаў на зямлі і колькі з іх сарвана, але яшчэ ня ўпала на зямлю. 10. У які бок ідзе цягнік і колькі ў ім вагонаў. 11. Што ты заўважыў на небасхіле. 12. Ці ёсьць у рэчцы рыба. 13. Які час году намаляваны тут. 14. Як пабудавана студня. 15. Колькі тэлеграфных слупоў. 16. Чым накрыта канюшня. 17. Колькі на малюнку кур і пеўняў. 18 Колькі ты заўважыў коняй. 19. Як узьлез хлопчык на дрэва і 20. Колькі тэлеграфных правадоў.

# „КАРАБЛІ-ЗДАНІ“

*(ТЛУМАЧЭНЬНЕ ДА МАЛЮНКУ НА 11 СТАР.)*

У краіне ледзяной цішыні, сярод ледзяных палёў Паўночнага акіяну вандруюць караблі-здані. Абледзянеўшыя, у тумане плаваюць яны, рэжучы ледзяную прастору, па волі вятроў і морскіх плыняў.

Шмат каму з паляўнічых і дасьледчыкаў поўначы здаралася бачыць у марознай імгле „карабльздань“.

Цудоўна абросшы ледзяной луской, з высокімі абледзянелымі мачтамі, ён спакойна захоўвае таямніцу свае пагібелі.

Назвы некаторых такіх караблёў вядомы,—большасьць іх бяз назваў. З кожным годам паўночныя маракі знаходзяць усё новыя і новыя караблі з „флёту сьмерці“.

Аб „караблёх-зданях“ шмат расказваюць маракі, усё роўна як казкі. Але ў гэтых „казках“ шмат праўды. Ня так даўно зьявілася „здань“ загінуўшага рускага карабля „Полатоўскі“.

Аднойчы ўвечары паляўнічыя эскімосы праз туман заўважылі абледзянелы корпус вялічэзнага карабля. На баку яго можна было прачытаць надпіс „Полато“.

Эскімосы хацелі назаўтра агледзець гэты таемны карабль, але, калі яны прачнуліся, карабля ўжо ня было... Ён зьнік невядома куды.

Пра лёс гэтага карабля вядома тое, што ён у 1915 г. застаўся ў акіяне, а ўвесну папаў у вялікі шторм і так прапаў.

Ня мала слаўных караблёў праглынулі ільды і халодныя хвалі акіяну. Вядома толькі, што караблі гэтыя вышлі ў мора і не вярнуліся. Ніхто ня ведае, як трагічна гінулі ад ветру, холаду і голаду людзі з гэтых караблёў.

Вось п е р а лічэньне тых караблёў, якія паплылі ў мора і не вярнуліся:

У 1845 годзе караблі „Эрэбус“ і „Тэрро“ пакінулі Ангельшчыну і накіраваліся ў паўночную экспэдыцыю. Праз шэсьць год уведалі, што яны загінулі. Можа і цяпер яны носяцца сярод бязьмежных ільдоў і часам палохаюць эскімосаў-паляўнічых.

Загінулі яшчэ ў Паўночным Л е д авіковым акіяне караблі „Глазго“, „Вэстморлад“, „Прэзыдэнт“—амэрыканскія; японскі—„Юла-Мард“. На гэтым караблі было знойдзена 7 мерцьвякоў, якія, бязумоўна, нічога не маглі сказаць аб сваёй сьмерці.



*АЭРО-САНІ.*

❋❋❋❋❋❋❋❋❋❋

# ЯК ЗРАБІЦЬ З ШПУЛЬКІ МІКРАСКОП

У шпульцы ад струн, у 1/2—2 см. вышынёй, ножыкам павялічце дзірачку ў адным канцы і ўсю ўнутраную паверхню шпулькі ахварбуйце чорным лякам.

Потым вазьмеце тонкую плёнку ад кіно-стужкі (можна карыстацца і фотографічнай плёнкай, сьлюдой, цэлюлёідам) і навыразайце з яе кружочкаў, якія трэба моцна прыбіць цьвічкамі да шпулек з таго канца, дзе шырэйшая дзірка.

На другім канцы шпулькі трэба прымацаваць кардонны кружочак, ахварбаваны ў чорны колер. У сярэдзіне гэтых кружочкаў праткнеце іголкай маленькія дзірачкі (гл. мал.).

Пры дапамозе гэтага мікраскопа можна разглядаць крыльлі мошак, цвіль, гнілую ваду. Каб разглядзець крылцы, спачатку трэба змочваць іх вадой і прыклейваць да плёнкі. Каплі вады для разгляду налівайце на невялікае шкелца, якое прыкладваецца да плёнкі мікраскопу. Глядзець трэба ў маленькую дзірачку на кардонным кружочку.




Мікраскоп з шпулькі: А—шпулька, Б—кіно-плёнка, В—кружок кардону, Г—дзірка, праткнутая іголкай.

Для таго, каб можна было з посьпехам разглядаць пэўныя рэчы праз мікраскоп, трэба паклапаціцца, каб гэтыя рэчы былі добра асьветленымі. Лепш за ўсё карыстацца мікраскопам тады, калі сьвеціць сонца, каб можна было накіраваць сонечныя прамені люстэркам („зайчык“) у цэнтр сьлюдзяной пласьцінкі.

Пры карыстаньні мікраскопам трэба браць толькі празрыстыя рэчы, а для гэтага трэба зрэзаць брытваю тонкі празрысты пласток, калі хочуць разгледзець паперу, ліст дрэва і іншыя празрыстыя прадметы.

У мікраскопе, дзякуючы маленькай дзірачцы і ахварбаванай у чорны колер сярэдзіны шпулькі, рэч як-бы набліжаецца да нашага вока; разам з тым яна даволі ярка асьветлена (шпулькавы мікраскоп павялічвае рэчы ў 64 разы).

# НЯХАЙ ДЫ АБЫ-ЯК

З даўнай пары, якую ня памятаюць нашы дзяды, жылі-былі па белым сьвеце Абы-Як і Няхай.

Як гэта бывае часта з блізьнямі, Няхай і Абы-Як былі падобны адзін да другога, як дзьве кроплі вады.

Абое вечна вясёлыя, вечна сьмяшлівыя, яны ўвесь свой век толькі аб тым і думалі, як-бы дзе пасьмяяцца з каго, учыніць якую штуку...

Раз ідуць праз вёску Няхай і Абы-Як ды бачаць—селянін кадушку робіць, клёпкі прыганяе,



абручы кладзе. Марудна йдзе работа, нешта не ўдаецца, а селянін, відаць, сьпяшаецца.

Няхай і Абы-Як—скок! да селяніча, і ў адзін голас: „Добры вечар, дзядзечка!"

— Вечар добры!—той адгукнуўся, не падымаючы галавы.

Блізьняцы ласкава да яго: „Хочаш, дзядзечка, мы табе дапаможам, мы гэту работу знаем, як бачыш—кадушка будзе гатова".

— Ці можа быць? Жартуеце!

— Бяз ніякіх жартаў! Давай абручы!

— Ну, дык памажэце, даражэнькія!

Абы-Як і Няхай узяліся за работу. Спорна йшла справа. Селянін трымае, Няхай ды Абы-Як стараюцца: дзе стукнуць, дзе прыцісьнуць...

Вось і гатова кадушка. Слаўная вышла. Рад селянін.

— Дзякуй вам, даражэнькія! Што-ж вам за працу?

— Нічога. Мы пасьля... Каці кадушку да хаты.

Коціць селянін кадушку і радасна ўсьміхаецца.

Стукнула кадушка аб нейкі камен і... рассыпалася...



Не пасьпеў селянін добра сьцяміць, што вышла, як пачуў ззаду моцны здаровы малады сьмех: Няхай ды Абы-Як атрымалі ўзнагароду за сваю працу і, адбегшыся, весела рагаталі.

Каля рэчкі кучка людзей будуе мост. Па той дарозе скора павінна была ехаць нейкая важная асоба. Цесьляры сьпяшаюцца кончыць да тэрміну работу. Адзін з іх хоча паправіць калоду, ня так добра паложаную. „Няхай", кажа другі: „кладзі абы-як!"

— Хто тут паклікаў нас,—адгукнуліся Няхай і Абы-Як, у момант, як з зямлі, вырасшы перад работнікамі. Блізьняцы прывіталіся.

— Мы ведаем, людцы, што вам трэба скарэй канчаць работу, — сказаў салодкім голасам Абы-Як:—хочаце, людцы, мы вам дапаможам, так да тэрміну скончым мост.

— Прасімо, — адгукнулася некалькі галасоў.

— Ну, то прымайцеся за працу!—крычыць Абы-Як.

Работа закіпела. Няхай пілуе,



Абы-Як чэша, работнікі дружна памагаюць.

На другі дзень мост быў ужо гатоў. Спрабавалі праехаць па ім. Недзе заскрыпела, загойдалася.

— Няхай, — сказаў стары майстра:—вытрымае!

Прайшло колькі дзён мост распоўзься і рухнуў... А блізьняцы тут недалёчка былі і, трымаючыся за жываты, весела рагаталі...

Забалеў у аднаго чалавека зуб. Моцна балеў: не даваў ні спаць, ні працаваць. Хворы рашыў вырваць яго. Пашоў у горад да доктара. Па дарозе спаткалі яго Няхай і Абы-Як. Распыталіся, разгаварыліся. Блізьняцы параілі хвораму ня йсьці ў горад, бо далёка, а зайсьці ў адну вёску, дзе жыў нехта Цьвек, які служыў фэльчарам у салдатах. Няхай і Абы-Як расхвалілі яго, сказалі, што ім самім ён спраўна вырваў па зубу.

— Які зуб? Мы зараз! Як бачыш, вырвем!..—Ухвалены фэльчар, качаючыся ад лішкава выпітае гарэлкі, палез з рукамі ў рот хворага, налажыў шчыпцы і з сілай рвануў зуб...

Фэльчар вырваў замест балючага—здаровы зуб. Енчыў бедны пацыент, а Няхай і Абы-Як



з зычным сьмехам кінуліся з хаты на вуліцу...

Многа гадоў прайшло. Адны людзі ўміралі, другія радзіліся на іх месца, а Няхай і Абы Як усё яшчэ жывуць. Яны ўсё ходзяць па беламу сьвету і выкідаюць усялякія сьмешныя штукі і пасьля сьмяюцца з таго, хто любіць рабіць усё як-небудзь „пахутчэй", ды гаворыць „Няхай", „Абы-Як"...

Бойцеся іх дапамогі!..

**Дзядзька Міхалка.**

Друкарня БДВ. У ліку 1700 экз. Заказ № 1328. Галоўлітбел № 663.